Год I. Верасень № 6.

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 6:




# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

| | |
|---|---|
| Падпіска месячна . . . . . . | 35 гр. |
| „ на паўгода . . . . . . | 2 зл. |
| „ на год . . . . . . . | 4 зл |

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

| | |
|---|---|
| Цэлая старонка . . . . . . . | 40 зл. |
| Паўстаронкі . . . . . . . . | 20 зл. |
| Адна чацьвертая старонкі . . | 10 зл. |

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год І. | ВІЛЬНЯ, — ВЕРАСЕНЬ 1929 Г. | № 6. |
|---|---|---|

*Паведамляем, што Рэдакцыя і Адміністрацыя час. «Шлях Моладзі» перанесена з вул. Людвісарскай № 1 кв. 23 на Завальную вул. № 6 кв 10 (ul. Zawalna № 6 m. 10). На гэты новы адрас просім прысылаць падпіску і ўсякую карэспандэнцыю.*

*Зазначаем, што таму, хто атрымаў пробны нумар, а не прыслаў падпісной платы і ня даў нічога знаць, высылка часопісі «Шлях Моладзі» будзе стрымана.*

## АБ АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Людзкія адзінкі, якія прыступаюць да якой працы бяз пляну — дарма толькі марнуюць час, бо працы сваей, як належа, не даканаюць. Розум чалавека мусе быць арганізаваны. Праўда гэта яшчэ больш зразумелая ў грамадзянствах. Да зьдзейсьненьня грамадзкіх мэтаў належа йсьці толькі дарогай арганізацыі.

Усё гэта павінна глыбока разважыць беларуская моладзь — краса і надзея народу. Ад плуга на адраджэнскай беларускай ніве старыя артаі адходзяць, а надыходзяць маладыя ў большым ліку, з большай, сьвяжэйшай сілай. Вось-жа брацца за працу моладзь наша павінна дарогай арганізацыі, супольнымі сіламі.

Дагэтуль с в а е й б е л а р у с к а й арганізацыі моладзь наша ня мае і дзеля гэтага служа матэр'ялам для розных чужацкіх, часта варожых нам, арганізацыяў.

На беларускіх землях пад Польшчай беларускай моладзі найбольш у радох „Z w i ą z k u M ł o d z i e ż y

*Polskiej". Вось-жа ёсьць гэта арганізацыя польскай чорнай сотні, у якой пад плашчам каталіцтва вядзецца сыстэматычнае, пляновае вынарадаўленьне беларускай моладзі. Кірующь гэтым „Związkiem" польскія ксяндзы на чале з віленскім арцыбіскупам Ялбжыкоўскім. А гэта нам Беларусам само за сябе прамаўляе.*

*Заманівае так-жа, хоць значна менш, беларускую моладзь у свае рады „Związek Młodzieży Wiejskiej". Арганізацыяй гэтай кіруюць пілсудчыкі, вызваленцы і агулам так зв. польскія дэмакраты. Адносна да беларускай моладзі „Związek" гэты такія-ж мае захопныя імкненьні, як і першы, адно толькі інакш гавора. Прыманкай тут для нашай моладзі служа барацьба „Młodzieży Wiejskiej" z „Młodzieżaj Polskaj", як з эндэцкай. Тымчасам змагаюцца яны між сабой ня дзеля нас, ня дзеля таго, каб быць для нас справядлівымі, але каб больш нас захапіць у свае польскія рады, вынарадавіць нас і паняволіць соцыяльна.*

*Ідзе часам так-жа, хоць даволі, рэдка і старэйшая беларуская моладзь у так зв. „Strzelec". Гэта польская ваенная арганізацыя, кіраваная пілсудчыкамі. Ідзе сюды наша моладзь толькі па сваей нясьведамасьці, па сваё, як кажуць, безгалоўе*

*Іншая ўрэшце наша моладзь, разумеючы ўсю бязглуздасьць належаньня да арганізацыяў польскіх, ня маючы беларускай народнай сьведамасьці і ня бачачы нідзе беларускай арганізацыі моладзі, знаходзе часта сабе прытулішча ў падпольнай арганізацыі камуністычнай моладзі, дзе моладзі нашай прывіваюць пакрысе ненавісьць да беларускага народнага адраджэньня, да беларускай народнай культуры, адводзяць ад сапраўдных нашых соцыяльных ідэалаў і, праводзячы новую рэлігію безрэлігійнасьці і новую этыку безэтычнасьці, моладзь нашу раскладаюць маральна.*

*З гэтага ўсяго бачым, як безадкладна зьяўляецца патрэбнай свая арганізацыя беларускай моладзі. І гэта справа ня толькі нашай моладзі, але справа*

*ўсяго грамадзянства, бо гэта справа нашай будучыні. Толькі ў сваей сапраўды ідэйнай і адпаведнай арганізацыі моладзь наша разаўецца інтэлектуальна і маральна і ня згіне для народу, але будзе сьветлай, надзейнай зоркай будучыні яго. Памятаймо, што калі моладзь наша будзе польскай, камуністычнай, а не беларускай, — яна для Беларусі прапаўшая.*

*Вось-жа пачаткі арганізацыі беларускай моладзі, з ініцыятывы самой-жа гэтай моладзі, згуртаванай каля «Шляху Моладзі», ужо маем, але гэта толькі пачаткі. Рэшта залежа ад старэйшага беларускага грамадзянства і ад самай моладзі, Ёсьць аднак падставы думаць, што моладзь наша, пры дапамозе маральнай і матэр'яльнай з боку старэйшых, безадкладна прыступе да далейшай больш, фармальнай арганізацыі маладых сваіх сіл, арганізуючы, іх у вялікую асьвечаную, маральную, народную грамаду!*

*А. Сакалінскі.*

# Нашы ворагі.

Адным з найвялікшых ворагаў чалавека гэта ёсьць благія прывычкі. Благія прывычкі даводзяць чалавека найчасьцей да руіны. Аднэй з такіх благіх прывычак ёсьць піцьцё гарэлкі, другой-жа курэньне тытуну.

Каб прадставіць сабе, як вялізарную шкоду прыносяць гэтыя благія прывычкі для чалавека як адзінкі, а гэтым самым і для народу, можа нам быць ґамсцнай статыстыка за прошлы 1928 год. Паводле гэтай статыстыкі ў 1928 годзе ў Польшчы прапіта 618 мільёнаў злотых, а пракурана — пэўна, што ня менш. Сколькі за гэтыя грошы можна было-б зрабіць дабра—кажды можа сабе добра прадставіць.

Маем мы тут перад сабой больш менш падлічаную суму, каторая была выдана грамадзянствам на зусім не патрэбныя, бескарысныя і шкодныя прывычкі. Але-ж ніхто не падліча тых сьлёз, якія былі вылітыя, тых крыўд, якія з прычыны гэтых благіх прывычак мелі месца ў грамадзянстве. Ніхто також не падліча ахвяр у людзях і страчанага здароўя, дзякуючы гэтым благім прывычкам.

Прывычкі гэтыя, найбольшы разьмер прыймаюць па

між людзей неасьвечаных, някультурных. Культура-ж найніжэй там стаіць, дзе народ паднявольны.

У групе народаў паднявольных знаходзімся і мы Беларусы і ў нас народ неасьвечаны, някультурны *і ў нас* пашыраюцца ўсякія блягія прывычкі. Калі глянем мы на сваю родную беларускую вёску, то ўбачым там, што ўжо ад маленькага дзіцяці народ наш да дабра ня ідзе. Дзеці беларускія, беларуская моладзь — будучыня Беларусі — ня вучацца як належыць, ня маюць належных школ, вёска ў цяжкім матэр'яльным палажэньні, а гэта-ж ўсё вядзе да цямнаты. Калі-ж народ цёмны, то ён падае ахвярай благіх прывычак. І так бачым, што моладзь беларуская, пачынаючы ад пастушкоў вясковых, а канчаючы часта нават на студэнтах, як толькі злове дзе які грош, зараз-жа прапівае, пракурвае і г. д....

Як-жа з гэтага няшчаснага пала жэньня выйсьці, як-жа папр авіць быт матэр'яльны, як здабыць родную школу і належныя правы?

Каб магчы здабыць гэта ўсё, кажды Беларус павінен шчыра ўзяцца за працу над самым сабой і для сябе. За працу гэту павінна ўзяцца перадусім моладзь беларуская, як прышлыя гаспадары Беларусі!

Беларуская моладзь павінна пазбыцца ўсіх благіх прывычак. Той грош, каторы яна прапівае і пракурвае, павінен пайсьці на агульную асьвету, на кніжку, на беларускую газэту. Беларуская моладзь мусіць сабе ўсьведаміць, што ня можа быць ніколі п'янаю, што мусіць мець заўсёды здаровы розум, што на яе з усіх старон цікуюць непрыяцелі і што яна мусіць вызваліць Беларускі Народ з падняволі, мусіць паправіць жыцьцё Беларускага Народу.

Дык зразумеўшы тое, як варожай ёсьць для нас гарэлка і курэньне тытуну і як патрэбны для нас здаровы, цьвярозы розум дзеля асягненьня сваіх незалежніцкіх ідэалаў, кіньма гарэлку піць і курыць. Хай замест карчмаў паўстануць у нас народныя дамы і нясуць сьвятло і сужыцьцё пад шэрую вясковую страху. Хай замест кілішка і папяросы трымае нашая моладзь добрую кніжку. Моладзь павінна ўсьведаміць сабе, што там толькі ёсьць шчасьце народу, дзе кажды грамадзянін ня толькі думае аб сваім прыватным дабры, але і аб дабры агульным. Дык кажды, хто будзе працаваць над сабой, будзе працаваць і для дабра агульнага.

Я. Н.



# Літэратурны аддзел.

Ул. Казлоўшчык.

## Пустая хатка.

(Працяг, гл. № 5 „Ш. М.“)

IV.

За сталом сядзяць паважна
і судзьдзі і пракуратар,
у папер глядзяць уважна...
Тут і сьведка правакатар.

Ды чытаць пачалі многа,
што Амброжаму ўпісалі.
Столькі ў думцы ня меў злога,
сколькі тут яму чыталі...

У канцы дазвол дастаўшы
ў абарону прамаўляці,
наш Амброжы, з лаўкі ўстаўшы
так пачаў судзьдзём казаці:

Не рабіў людзём я злога,
ня лез нікому я ў дарогу,
не казаў ліхога слова,
не хацеў быць дрэнным Богу.

Толькі я хацеў зрабіці
для народу лепшу долю,
каб яму было лепш жыці,
ды каб меў зямлю і волю.

Каб ня быў галодны, босы
каб ён хлеб еў, не мякіну,
каб кахаў свае палосы,
каб ў хляве ён меў жывіну.

Выгнаць вон душу прыгонну,
каб прад кожным не кланяўся,
каб быў горды, не паклонны,
каб благоцьця не баяўся.

Каб кахаў ён край свой родны,
мовы роднай ня чураўся,
каб бацькоў сваіх быў годны,
каб сярмягі ня стыдаўся.

Абудзіць душу загнану,
каб ўжо ведаў хто ён гэткі,
каб ня быў служакай пану,
каб гараў свае палеткі.

Каб ня быў ён бедны, голы,
не цягнуць з яго астаткі,
бо і так галодны, кволы
аддае шмат на падаткі.

Каб у нас у домах Божых
ня вучылі адракацца
родных звычаяў прыгожых,
Беларускасьці чурацца.

Дык, судзьдзі, мае паночкі,
дзеж праступак, дзеж тут бунты?
Яж чужой ня ўзяў сарочкі,
ані хлеба нават фунта...

А судзьдзі паперы ўзяўшы
на параду йшлі паважна,
і пасьля назад прышоўшы,
пачалі чытаць уважна.

У канцы... паслухай, дружа:
ўсім прысуд апавясьцілі,
што яго на летак дужа
у вязьніцу засудзілі...

А Настулька асталася
сама бедна, як калочак,
і да працы узялася,
як вучыў ей галубочак.

Але думаеш, мой браце,
было суджана Настульцы
жыць шчасьліва ў сваей хаце,
памагаць сваёй матульцы?

Не. За тое, што хацела,
каб народ меў шчасьце, волю
і Настулька наша мела
свайго міленькага долю.

V.

А цяпер, чытач цярплівы,
хочаш ведаць аб бабульцы,
аб старэнькай і руплівай
тэй Настулечкі матульцы?

Нейкі час яшчэ тут была,
прабавала з працы жыці,
потым з торбачкай хадзіла
на жыцьцё ў другіх прасіці.

Ад тугі, ад цяжкай працы,
ад няшчасьця таго злога
у нябесныя палацы
была ўзята аж да Бога.

А вясковыя асілкі,
што ей знали долю горку
занясьлі аж на магілкі
й пахавалі на прыгорку.

І пакінула гаротна
сваю хатачку крывеньку
і Настульку у вязьніцы,
ей дачушку маладзеньку.

А цяпер у тэй хаціне
ня чуваць жывога духа,
у куце на павуціньні
ня дундзіць там нават муха.

Часам толькі верабейка
шчабятліва тут заўецца,
або сумная жалейка
з вёскі рэхам адаб'ецца.

Або ластаўкі рупліва
робяць гнёзды і лятаюць
і галосяць шчабятліва,
гэту хатку ажыўляюць.

А у ночы хто праходзіць
гэту хатку абмінае,
бо штось жудасьць тут наводзіць,
кожны страх чагосьці мае.

А страшко суседу, сваці
і ўсей вёсцы на'т разносіць,
што ня раз ён чуў, як ў хаце
а паўночы хтось галосіць.

А хто мае страха вочы—
зараз кажа: гэта знача
дух бабулькі а паўночы
над Настулькай долі плача...

Ой ты, хатачка крывенька,
ці дажджэсься гаспадыні?
Яна квола, маладзенька
у вязьніцы можа згіне!?

А мо дасьць Бог лепшу долю,
што Амброжы і Настуля
будуць мець свабоду, волю,
закуе ім шлюб зязюля...

Гэтак часта, мой ты братка,
наша моладзь так марнее,
не адна у нас так хатка
стаіць пуста й парахнее.

Але ведай, мой ты дружа,
што старонка наша мае
сілы, моцы вельмі дужа,
змагароў нам прыбывае.

І хаця што-раз то болей
аддаюць яны галоўкі
за свабоду і за волю
без пары йдуць у дамоўкі,

але іх душа—ідэя
з намі верна ўсюды ходзіць
і мільёны за сабою
змагароў яна прыводзіць.

Канец.

**Марк Твэн.**

# Прысуд сьмерці.

Рабілася гэта ў часох Олівэра Кромвэльля. Урад Кромвэльля, як ведама, залічаецца да найсьвятлейшых у гісторыі Англіі. У імкненьні сваім да безгранічнае ўлады і сілы, ня менш хітры, як самалюбны, Кромвэль ніколі не ўстрымоўваўся ад найстрашнейшых на‘т караў за непаслухмянасьць.

Палкоўнік Майфаір, наймалодшы, але і найадважнейшы ваяка тагочаснай рэспубліканскай арміі: гэрой некалькіх ваенных перамогай, а прытым нязвычайна сымпатычнага характару чалавек — цешыўся высокім паважаньнем і славай у вачах тагочаснага грамадзянства. Паміма гетага аднак ня чуўся ён шчасьлівым. Нейкая таёмная, цяжкая туга прыгнятала ягоную душу і лажылася цёмнаю хмарай безбярэжнага суму на ягоным прыгожым твары...

Была ўжо позная восень. На дварэ панавала цёмная дажджыстая ноч, а ў хаце — злавесная, глыбокая ціш...

Палкоўнік Майфаір з маладою жонкай, прыбітыя нейкім таёмным горам, сядзелі ў глыбокім, малітвенным задуменьні ля камінку і чакалі... Так... апрача гэнага чаканьня нічога ўжо на гэтым сьвеце больш ім не асталося... Ды ня доўга ўжо і чакацімуць... Хвіліна тая ўжо недалёка... На ўспамін аб гэтым бедную, прыбітую маральным болем жанчыну, ахапляе нэрвовая дрыгота...

Маленькая, прыгожанькая, з беленькімі як лён валаскамі і мілаю ўсьмешкаю на твары сямігадовая дачушка Аббы, адзіная пацеха іхняя, дробненькім дзіцячым крокам убягаючы ў сьвятліцу, перарвала на хвіліну іхняе цяжкае задуменьне. Як заўсёды, так і сяньня прышла яна пацалаваць татку і мамку на дабранач. Узглянуўшы на яе ўбягаючую, палкоўнік перарваў задуму ды поўсакрэтна сказаў да жонкі: — праз любоў да дзіцяці нашага вытрым сьлёзы, каб ня ведала яно аб нічым...

З вясёлаю дзіцячаю усьмешкаю яна акінула іх нявіннымі, як пралескі вочкамі, падскочыла бы сарэнка, ды песьцячыся села на каленях бацькі. А ён чула тулячы яе да шырокіх грудзей, пачаў цалаваць.

— Татка, татка! не цалуй гэтак мяне, бо замоцна цісьнеш ды кудлачыш валасы! І ўжо хацела адысьці, але палкоўнік затрымаў яе на руках, кажучы: не адходзь яшчэ, коцік, пасядзі яшчэ крыху на маіх каленьнях! Праўда, што прыцiснуў я цябе вельмі моцна, але ты не павінна гневацца на татку. Чаго хочаш — дамагайся ад мяне, але даруй!... Пасядзі!...

І за хвіліну сьмех сонечны зноў загасьціў на дзіцячым тварыку. Прыміляючыся да татанькі пачала прасіць Аббы, каб расказаў ёй харошую, цікавую казачку....

Ціха! Ша...

Палкоўнік з жонкаю нагла здушылі оддых і хвіліну слухалі... Зьмяшаны з жудасным выцьцём віхру, даносіўся одгалас нечых крокаў... сьпярша глухіх, далёкіх, потым што-раз цяжэйшых і бліжэйшых... Але хутка крокі заціхлі, прапалі... Майфаір з сям'ёю аддыхнулі лягчэй. казаўбы мінулі якое няшчасьце, або камень ім цяжкі зваліўся з грудзей...

Успакоіўшыся палкоўнік зьвярнуўся да сядзячае на каленях дочанькі:

— Такі-ж просіш у мяне казачку і то цікавую ды сьмешную?

— Ды не, татка, раскажы мне сумную, але такую сумную, як якое-небудзь сапраўднае здарэньне.

Мамка, хадзі сюды бліжэй к нам, дай мне ручку! Во, так. А цяпер татка пачынай.

— Жыло сабе раз трох палкоўнікаў. Падчас аднае

бітвы нарушылі яны вайсковую дысцыпліну. Сталася гэта вось як: мелі яны срогі загад демонстраваць атаку на вельмі моцнай пазыцыі, каб заманіць у свой бок ворага і даць магчымасьць адступіць свайму рэспубліканкаму войску. Пачаўшы дэманстрацыю, яны так разгарачыліся, што і незаўважылі, як, нарушаючы прыказ, перайшлі ў сапраўдную бітву, каторую на‘т выйгралі.

Глаўны ваявода, аддаючы гонар іхняму пераможству, аказаў адначасна вялікі гнеў за ня послух. Адзваўшы ў Лёндын, паставіў іх перад ваенным трыбуналам.

— Ці гэты галоўнакамандуючы, татка, то быў Кромвэль?

— Так, гэта быў ён.

— Э, то я яго добра знаю, я ня раз яго бачыла, як цераз места ехаў на сваім стройным кані, вядучы за сабою палкі храбрых вояў. Людзі яго баяцца, а я — не. Я зусім не баюся яго. Ён заўсёды глядзіць на мяне, сьмяючыся...

— Ой, ты мая маленькая, любая саранька!...

Слухай-жа далей. Палкоўнікаў судавыя ўлады да разбору дзела пастанавілі пасадзіць у вастрог, даўшы ім на слова гонару кароткі тэрмін на разьвітаньне з раднёю...

Ціха! Зноў!...

Наслухоўваючы трывожна, пачулі мерныя крокі... Але і гэты раз хутка яны згінулі...

Маці прытуліла журліва голаў да сільнага пляча мужа, каб укрыць перад дзіцям перапуд і трывогу...

— Ось-жа яны вярнуліся да сваіх дамоў сяньня рана — гаварыў далей палкоўнік.

Дзіця шырока вытарашчыла вочы.

— Дык гэта-ж, татка, праўдзівая гісторыя!?...

— Так, маё дзіцятка, так.

Ах, які-ж ты добранькі, татачка! Будзь ласкаў, сконч скарэй, сконч! Мамка, ты плачаш? Чаго, скажы мне, чаго?

— Не, нічога, залаценькая мая... я так сабе... я толькі ўспомніла пра тых няшчасных палкоўнікаў.

— Пакінь, мамка, ня плач! Паглядзіш, усё будзе добра. А перад гэтым, татка, сяньня рана гдзе яны былі?...

— Перад звальненьнем на некалькі гадзін сядзелі ў вежы. Там суд разбіраў іх справу і прызнаўшы ды зацьвярдзіўшы іхнюю віну — прыгаварыў на сьмерць.

— Ага! Якія-ж нягоднікі, тыя судзьдзі!... Мамка, ты зноў плачаш, ня плач! Яны ня ўмруць! Але-ж конч барджэй, татка, конч. Хачу ведаць канец гэтай казкі!...

— Не адважуся, дачушка, не магу...

— Скажы татанька, ці ты знаеш тых трох палкоўнікаў?

— А як-жа, знаю.

— Ось я хацела-б іх бачыць. Я вельмі люблю палкоўнікаў. Як табе здаецца, татка, ці хапелі-б яны, каб я іх пацалавала?

— Адзін з іх то ведаю, што вельмі хацеў-бы—дрыжачым голасам адказаў палкоўнік. — Пацалуй мяне, замест яго. — Добра, але-ж і за тых, другіх...

— Я, татка, каб іх угледзіла, то-б ім сказала: „Мае-ж вы паны дарагія! Ведаеце вы? — мой татка таксама палкоўнік і то вельмі адважны. Ён таксама паступіў-бы, як і вы, дык не стыдайцеся свайго чыну, бо вы добра паступілі...

Ша!...ша!... Слухайце!... Ці гэта вецер, ці што?

— Не! —

— У імя Лёрда Генэрала — адчыніць! — пачуўся із за дзьвярэй голас.

— Татулю, гэта-ж жаўнеры, пазволь, я ім адчыню!

Аббы пабегла да дзьвярэй і, адчыніўшы іх насьцеж, пачала ветліва запрашаць: будзьце паны ласкавы, просім, увайдзеце!

Грэнаддзеры ўвайшлі з стрэльбамі на плячах. Афіцэр аддаў вайсковы гонар палкоўніку. Майфаір ветліва адкланіўся яму. А нешчасьлівая жонка яго, стоячы за плячыма, ледзь здзержвала сьлёзы... Аббы глядзела аслупелымі вочкамі... Бацька доўга, доўга цалаваў іх абедзьвюх...

— У Вежу! упярод, марш!

Акружаны жаўнерамі палкоўнік пераступаў парог свайго дому, а за ім нясьліся лепятлівыя словы Аббы, іхняга анёлка мілага: „мамка, глянь, які татуленька харошы, як ён роўненька йдзе;... Пашоў у вежу? Ага, ён там пэўна спаткае тых палкоўнікаў. Таатуулюю!!“...

— Бедная ты, мая маленькая — ледзь магла вышаптаць, збалелая й прыбітая горам, маці.

— Назаўтра няшчасная пані Майфаір не магла з маральнага болю падняцца з пасьцелі. Малой Аббы прыказана было гуляць на дварэ, каб не нарушаць супакою хворай мацеры. Аббы гуляла перад сваім домам, а пасьля аднак дайшла да пераканаьня, што лепш пабегчы ў вежу да таты ды сказаць яму, што дзеецца дома...

А ў вежы тымчасам Ваенны Трыбунал, пад старшынствам Лёрда Пратэктара, радзіўся аб выкананьні прысуду загадковых сваіх ахвяр.

— Запрапанавалі мы абвінавачаным — адазваўся адзін з судзьдзяў — каб аднаго з пасярод сябе выбралі на сьмерць, але прапазыцыю нашую яны адкінулі. Твар Кромвэльля прысланіла хмара.

— Не, усіх ня можна ставіць пад сьмерць! Мы будзем цягнуць за іх лёсы. Пазваць іх сюды! Паставіць усіх у рад тварам да сьцяны, а рукі назад! Як будзе ўсё гатова — далажыць мне!

Калі аказаўся сам у судовай каморы Кромвэль, падаўся ў глыбокую задуму. Пасьля раптам прызваў ад'ютанта

і прыказаў прывесьці з вул'цы першае спатканае дзіця. Не прайшло і хвіліны, як ад'ютант стаяў перад Лёрдам, трымаючы за ручку маленькую дзяўчынку — Аббы.

Дзяўчынка сьмела падышла да Кромвэльля, без ніякае трывогі узьлезла яму на калені, дый кажа:

— А я Пана добра знаю. Пан ёсьць Лёрд Генэрал. Я няраз бачыла, як пан праяжджаў каля нашае хаты! Пана баяцца ўсе, а я нітрошкі пана не баюся.

Сьмех разьясьніў грозныя цені на твары Кромвэльля.

— Пан мяне ня можа прыпомніць? А я пана, бач, не забыла...

І я цябе цяпер такжа не забуду, ручаю табе словам гонару! Ад сяньняшняга дня будзем на заўсёды прыяцелямі.—

— То добра, вельмі добра, алеж цяпер пан мяне пацалуеш, так, як цалуе мяне мой татка!...

З прыемнасьцю, маё дзіцятка! Прыпамінаеш ты мне маю малую дачаньку, такуюж, як ты міленькую і прыгожанькую. Хай Бог цябе дарыць шчасьцем!

— А ці пан вельмі любіў сваю дачаньку? Бо мой татка мяне вельмі любіць.

— О, так! Я любіў яе над жыцьцё! Ніколі нічога ёй не адмовіў.

— А і яж пана вельмі люблю! Ці хоча пан мяне пацалаваць?

— А якжа, хачу. Вось гэты пацалунак будзе для цябе кажа цалуючы Кромвэль—а гэты для яе. Цяпер ты мне яе заступаеш; кажы, чаго жадаеш, усё споўню.

Аббы з радасьці аж заляскала ў далоні. Раптам, пачуўшы грукат бубна, крыкнула:

— Войска йдзе! — Войска! Пане Генарале, Аббы хоча яго бачыць!—

— За хвіліну ўбачыш, мая дарагая, але перад гэтым мусіш споўніць маю просьбу. У тэйжа хвіліне ўходзіць афіцэр з дакладам:—Гатова!

Тады Лёрд Протэктар падае Аббы тры малыя васковые галачы—дзьве белыя, а трэцяя чырвоная. Гэтая апошняя мела быць паказацелем, хто з засуджаных меў быць караны сьмерцяй.

— Ай, якаяж харошанькая чырвоная галачка! Ці можна яе ўзяць сабе?

— Не, дзіцятка, ня можна! Адсунь цяпер запону, закрываючую адчыненыя дзьверы, там у суседняй каморы ўгледзіш трох чалавек, тварам адвернутых да сьцяны і з заложанымі назад рукамі. Каждаму з іх улажы ў рукі па аднэй галачцы ды вярніся да мяне,

— Аббы зьнікнула за цёмнаю запонай... Кромвэль устаў, зрабіў некалькі крокаў і стараючыся прымусіць сябе да роўнавагі духа, прагаварыў сам сабе: адзін Бог толькі

знае, на каго падзе выбар гэтага малога пасланца, каторага Ён мне Сам прыслаў!

Аббы, знашоўшыся за цёмнай запонай, затрымалася на хвіліну, трывожна азіраючы пануры абраз трох асуджаных, застыўшых у нярухомай позе, і акружаных жаўнерамі. Раптам тварык яе зазьяў радасьцю.

— А, татуланьку, мілы, і ты тут!?... Падбегла борзденька да вязьняў і паўкладала ім у рукі галачкі, пасьля ўсунула ручку ў руку бацькі і хвалячыся, сказала:

Глянь, татка, што маеш у руцце, дала табе найхарашэйшую чырвоную галачку!

Палкоўнік Маыфаір, глянуўшы на нясшчасны дар дзіцячы, сьведамы яго значэньня, схапіў дзіця на рукі ды ўпаў з плачам на калені.

Афіцэры, жаўнеры і многа іншых сьведкаў гэнай трагічнай сцэны не маглі так-сама стрымаць сьлёз. За хвіліну афіцэр, камандуючы канвоем, падышоў бляды да вязьня, таркнуў яго за плячо і з далікатным спачуцьцём кажа: мне надта прыкра, пане палкоўнік, але... абавязак застаўляе мяне...

— Што, што такое?—пытае здзіўлёна Аббы. —

— Мушу яго адгэтуль вывесьці. Хоць мне вельмі прыкра...

— Вясьці? Куды? Я не пазволю! Мама хворая, дык я прышла па татку! З гэтымі славамі ўзлезла бацьку на плечы і апляла моцна ручкамі яго шыю.

— Ну, хадзем ужо, татуленьку мілы, хадзем!...

Палкоўнік сумна ўзглянуў на Аббы. Маё мілае дзіцятка, не магу ісьці з табою—прашаптаў жаласна. Аббы зсунуўшыся з плячэй бацькі і падбегшы да афіцэра—калі тупме нагою ды калі крыкне: кажу вам, мама ляжыць хворая! Пазвольце татку йсьці са мною! Я гэтага дамагаюся!! І, як страла памчалася ў судавую каморку, а па хвіліне вяртаецца адтуль, вядучы за руку Кромвэльля.

На ўзгляд Лёрда Генэрала ўміг замоўклі гутаркі. Афіцэры і жаўнеры выцягнуліся ў струнку, ўзяўшы срэльбы на чэсьць.

— Затрымай іх, пане! Мая мама хворая, дык я прышла сюды па тату, а яны хочуць яго негдзе весьці! Усім вядомаж — гэта мой татка, я дзеля таго й найлепшую галачку яму дала. Ах! Каб пан ведаў, як я моцна люблю майго мілага татаньку!...

—Што рабіць? Божа, што тут рабіць!? —пытаў сябе клапатліва разчулены і на хвіліну збянтэжаны Кромвэльль. Задумаўся. Шукаў, бач, якоганебудзь выхаду з гэнай дзіўнай трагічнай сытуацыі. Аббы пахмурнела. Сціснула моцна руку Лёрда і прыміляючыся стала дамагацца: дазволь яму ісьці са мною! Самжа мне казаў нядаўна, што магу дама-

гацца ў цябе, чаго толькі захачу, а цяпер выракаешся свайго прырачэньня?!...

Разьясьніўся твар Кромвэльля. Палажыў ён руку на галоўцы маленькае Аббы і выдаў такі, вось, асуд:

*Грамадзяне! Сам Бог прыслаў сюды гэта дзіця, каб паказаць нам дарогу справядлівасьці. Яно—замест мяне ўжо выдала прысуд. Вязьні, вы вольныя!...*

Пераклаў *Вінцук Пераход.*

# Лісты.

## МОЛАДЗЬ ПАСТУПАЕ НЯ ТАК, ЯК ТРЭБА.

**Крамяніца**, Ваўкавыскага пав. Я чалавек хоць стары, аднак хачу напісаць пару слоў у часопісь маладых Беларусаў. Змушае мяне да гэтага няправільны пастушак нашых нясьведамых, маладых беларускіх інтэлігентаў.

Рэч у тым. Сяляне нашы зразумеўшы як вельмі патрэбна навука для людзей, пачалі вучыць сваіх дзяцей, пасьвячаючы часта на гэта астатні кавалак хлеба. Адны падвучылі толькі трохі, другія павывучывалі на ксяндзоў і вучыцялёў, а іншыя яшчэ вучаць. Вось-жа тое, што прыбывае інтэлігенцыі, то ёсьць добрым, але кепска, што ў гэтых маладых інтэлігентаў Беларусаў ёсьць кепскія праявы. Інтэлігенты гэтыя, забываючыся аб сваей роднай мове, аб сваіх абычаях, суседзях, старане і аб сваіх абавязках для яе, ідуць у палітычныя польскія партыі, як „Partyja Chłopska“ і агітуюць сярод беларускага грамадзянства за яе палітыку. Мне здаецца, даражэнькія маладыя беларускія інтэлігенты з Ляхавіч, Пацэвіч, Крамяніцы ды інш., што вам там ня мейсца. Мейсца ваша пры культурнай працы паміж сваіх суседзяў, у іх і сваей роднай мове беларускай, з сваімі абычаямі, на сваей роднай беларускай зямліцы Даражэнькія, не забівайце вы ў нас веры, каторую мы маем ў вас. Мы верылі і верым, што вы не павядзеце нас па чужой і сьлізкай дарозе, а ўзгадуеце прышлае пакаленьне ў сьветлай праўдзе. Вы пакажэце нясьведамым, кім яны ёсьць і прынясіце сьвятло — культуру.

Дык, браты, вазьміцеся за работу культурную, усьведамляючую, беларускую. У гэтай працы могуць дапамагчы беларускія культурна-прасьветныя арганізацыі, як Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Т-ва Беларускае Школы.

**Язэп Дубавік.**

## ДА МОЛАДЗІ.

**Парплішчына**, Дзісьненскага пав. Ціха ў вёсцы. Восень прыбліжаецца. Даўжэюць вечары. Робіцца болей часу,

а тут няма беларускіх газэт, журналаў, няма чаго пачытаць і аб чым падумаць. Сумна. Народ двухміліённы ў Заходняй Беларусі ня мае дагэтуль ані воднае літэратурнай перыядычняй часопісі. Сорамна! Варожыя рукі ўмела разьбіваюць беларускі адраджэнскі рух на дробныя групкі, не даючы яму ўзмацніцца.

Дык трэба шчыра прывітаць групу беларускай моладзі, якая саматугам пачала выдаваць часопісь „Шлях Моладзі". Наш абавязак яе падтрымаць. Дык няхай ня будзе на Беларусі ні аднэй вёскі, у якой-бы моладзь не чытала адзіную ў сучасны момант літэратурную і грамадзкую часопісь „Шлях Моладзі". **А. Т.**

## МОЛАДЗЬ ЗА ПРАЦАЙ.

**в. Сьвірыдавічы**, Смаргонскай гміны. Адным мо' з найрухліўшых куткоў у Заходняй Беларусі, дзе шырока разгарэлася праца на ніве культурна-асьветнай беларускай, ёсьць скрыжаваньне паветаў: Ашмянскага, Вялейскага і Маладэчанскага — а іменна: на абшарах гмінаў Смаргонскай, Жодзішскай і суседніх. Тут ужо ад некалькі гадоў моладзь, перадавая сіла і надзея нашага беларускага народу, зарганізаваная ў гуртkі Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры, вядзе энэргічную і ахвярную працу над прабуджэньнем нашага сялянства да лепшага, культурнага жыцьця. Праца вядзецца перадусім у кірунку ладжаньня тэатральных прадстаўленьняў, часта з песьнямі і дэклямацыямі, а такжа як неадзоўны дадатак да гэтага — скокі, у першую чаргу нацыянальныя, як Лявоніха, Юрачка і інш. Арганізуюцца такжа сяброўскія ігрышчы і маёўкі, дзе наступаець абмен думак паміж прысутных сяброў, а пад гукі беларускіх цымбалаў — грыміць беларуская песьня і адбываюцца скокі жвавай Лявоніхі і інш.

Усе гэтыя імпрэзы праходзяць міла і сымпатычна, а ўражаньні на іх — хіба-ж на доўга застануцца ў памяці прысутнай на іх моладзі.

Сярод культурна-асьветных пляцовак у гэтым кутку найбольш адзначаюцца сваей працай, як ведама ўжо з газэт, асабліва „Бел. Крыніцы", гурткі Бел. Інст. Гасп. і Культуры ў в. Шутавічах, Сьвірыдавічах, Гальляшонках (у гэтых двух апошніх вёсках яшчэ здаецца Староства Ашмянскае гуртkоў чамусьці не залегалізавала!) — Ашмянскага павету, Данюшаве, Жодзішках — Вялейскага павету. Сябры гурткоў: Шутаўскага, Сьвірыдаўскага і Гальляшонскага — дзеля вядзеньня тэатральнай працы ў шырэйшым маштабе, не агранічываючыся да сваіх гмін,—зарганізавалі ў гэтым годзе Тэатральную Аб'ездную Трупу, якой афіцыяльны назоў ёсьць: Тэатральная Трупа пры Цэнтральным Урадзе Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры". Гэта трупа ад пачатку свайго

істнаваньня зарганізавала колькідзесят прадстаўленьняў, робячы выезды на 20, а нат 70 клм., — заўсёды з вялікай удачай. Кіраўніком Трупы — гр. Войцех Шутовіч; у склад яе ўваходзяць, апроч кіраўніка: Антось Жабінскі, — гэты беларускі камэдыянт-сьмяхун, з вялікім артызмам выконваючы гумарыстычныя, сьмяхотныя ролі, — з в. Шутавіч, сёстры Янчуковічанкі (Зося, Юля і Марыя) і іх брат, сёстры Шчасныя Александра і Ганна, Куліцкі Юлюк, Федаровіч Міхась, Асіпоўскі Міхась — з в. Сьвірыдавіч, браты Сасноўскія і Караваі (брат з сёстрамі) — з Гальляшонак, а такжа Янчуковіч Віктар — з в. Каравояў і інш.

Апошняй праявай іхнай працы было наладжаньне прадстаўленьня дня 4-га жніўня с. г. у в. Сьвірыдавічах. У гэтай вёсцы, некалькі тыдняў перад прадстаўленьнем, згарэў, як кажуць, дачыста сямейны гаспадар. Зарганізаваная моладзь, поўная гуманітарных пачуцьцяў і ў імя беларускай сялідарнасьці — пастанавіла памагчы няшчаснаму пагарэльцу. Дзеля гэтага ў дзень 4-га жніўня с. г. і зарганізавала тэатральнае прадстаўленьне, з якога даход пашоў на карысьць пагарэльца.

У праграму спэктаклю ўваходзілі: „Модны Шляхцюк“— аднаактовая камэдыя Каруся Каганца, — і „На вёсцы“ — ідылічны абразок у дзьвух адслонах Фр. Аляхновіча. Закончыўся спэктакль гучнымі песьнямі і скокамі.

Ролі свае ў гэтых п'есах усе артысты-аматары выканалі добра.

Дэкорацыйны бок на сцэне, ведама, з прычын непамысных абставінаў матэряльыных — кульгаў шмат на што.

Трэба яшчэ зазначыць умелы праз арганізатараў дабор п'есаў. Гэтыя п'есы, ідучы ў такім чаргаваньні, як паказана вышэй, становяць цэласьць — і лёгічную і ідэолёгічную. Трэба, каб моладзь і ў іншых кутках нашай Бацькаўшчыны ставіла ў такім парадку вышэйназваныя п'еты, зусім адпаведныя і лёгкія для пастаноўкі на нашай вёсцы.

Дык можна цешыцца з маладой беларускай гэнэрацыі, шчыра працуючай на ніве беларускай, і пажадаць ей і на будучыню такой-жа працы і пасьпеху ў ей.

**Наглядчык.**

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш, Альфонс Шутовіч і Уладыслаў Тарасэвіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

# Хроніка.

**Беларуская Гімназія ў Рызе**. 19 ліпня с. г. Латвійскае Міністэрства Асьветы зацьвердзіла статут Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Рызе, якое мае адчыніць у Рызе беларускую гімназію. Гэта ўжо будзе другая беларуская гімназія ў Латвіі. Дый трэба зазначыць, што ў Латвіі Беларусы маюць 33 народныя беларускія школы.

**Суд над б. паслом Сабалеўскім.** Ад 6 да 9 верасьня адбываўся ў Віленскім Акружным Судзе працэс б. пас. Сабалеўскага абвінавачанага па 102 арт. ч. II К.К. У часе працэсу было спытаных каля 20 сьведак. Пасол Сабалеўскі ня быў арыштаваны разам з Беларускай Сялянска Работніцкай Грамадой, да якой належаў, а ў 1928 г. пасьля выбараў у Сойм, у якіх п. Сабалеўскі хоць браў ўчасьце ад № 18 (Блёку нацыянальных меншасьцяў), на пасла аднак не кандыдаваў.

Суд асудзіў п. Ю. Сабалеўскага на 6 г. цяжкага вастрогу, залічаючы 25 месяцаў праседжаных у арэшце.

Ведамы адвакат Пятрусэвіч, які бараніў пасла Сабалеўскага, падаў апэляцыю.

**Арышты ў Цэнтральным сэкрэтарыяце Беларускага Пасольскага Сялянска-Работніцкага Клюбу.** 25 жніўня г. г. у Сэкрэтарыяце Сял.-Работ. Клюбу былі арыштаваны паліцыяй 9 сэкрэтароў правінцыянальных сэкрэтарятаў, 4 тэхнічных працаўнікоў і 2 прыпадкова ўвайшоўшых. У часе арыштаў адбыліся рэвізіі. Усіх арыштаваных як пішуць газэты, пасьля 14 дзён звольнілі, адаслалі дамоў і ўзялі пад наглад паліцыі.

**Набажэнства ў касьцеле сьв. Мікалая.** Кожную нядзелю і сьвята а 10 гадзіне ў касьц. сьв. Мікалая адбываюцца набажэнства для Беларусаў. Пасьля Імшы — беларускае казаньне.

**Сьвята ўкраінскіх „Січовых Стрыльцоў."** Кожны год у канцы лета ўкраінскае грамадзянства сьвяткуе гадаўшчыну бою Украінскіх Січовых Стрыльцоў з расейскімі вайскамі пад Макіўкай.

**Украінскія скаўты ў Англіі.** Як даведываемся, дык украінскія скаўты таксама былі на III Міжнародным Зьезьдзе Скаўтаў у Англіі.

**Дзень Украінскіх Студэнтаў**. Па ўсей Украіне дзень 15 верасьня абыходзіцца як дзень украінскіх студэнтаў.

**Разрухі ў Львове**. Як пішуць газэты, 8-га верасьня ў Львове ў часе аткрыцьця Усходніх Таргоў і пабыту французскіх парлямантарыстаў, было кінута на месьце некулькі бомбаў, якія разарваліся. Адна такая бомба была падана ў валізцы ў касу пры ўваходзе на таргавы пляц, дзе разар-

валася, цяжка ранючы ўрадаўку і двух ўрадаўцаў. Таксама пішуць газэты, што ў той дзень паўстаў на львоўскім вакзале пажар ад разрыву бомбы. Затрымалі аднаго вучня (паводле газэт украінца), які стаяў пры разрываючайся бомбе на вуліцы ў тым часе, калі праяжджаў міністар гандлю і промыслу з львоўскім ваяводаю.

**Арышт Плечкайтіса**. У Прусіі арыштаваны ведамы правадыр літоўскіх эмігрантаў у Польшчы Плечкайтіс, з сваімі калегамі. Пры арыштаваных знойдзена шмат бомбаў і іншага аружжа. Астатнімі часамі Плечкайтіс пражываў у Вільні. У Прусіі знашоўся ён быццам дзеля таго, што меў зрабіць замах на цягнік, каторым ехаў Вальдэмарас—літоўскі прэм'ер міністраў з канфэрэнцыі Лігі Народаў у Жэнэве.

**Тыдзень камуністычнай моладзі.** Першы тыдзень месяца верасьня, згодна з пастановай камсамолу, лічыўся тыднямкамуністычнай моладзі. Гісторыя гэтага тыдня такая: у часе сусьветнай вайны ў 1915 г. у Бэрліне адбыўся кангрэс камуністычнай моладзі пад лёзунгам „Далоў з капіталістычнай вайной“ і вось на гэтым кангрэсе пастаноўлена у знак пратэсту ў першую нядзелю месяца верасьня рабіць „проціў ваенныя“ дэманстрацыі. І так звычаямі тых гадоў ў дзень 1-га верасьня с. г. віленскі камсамол зложаны пераважна з жыдоўскай моладзі прабаваў рабіць дэманстрацыю, каторыя заразжа паліцыяй была разагнана.

**Луначарскі** камісар Асьветы СССР. падаўся ў адстаўку, мейсца яго заняў Бубноў.

**Пажар фабрыкі „Самалёт“** Надовечы ў Пазнаньні ў фабрыцы „Самалёт“ выбух пажар. Згарэла 20 арэаплянаў, страты выносяць 10 мільёнаў злотых.

**Васеньнія нарады Л гі Народаў.** Цяпер у Жэневе ў Швайцарыі адбываюцца нарады Лігі Народаў. У нарадах гэтых, таксама як і ў канфэрэнцыі ў Газе, найбольш увагі зварочываюць на сябе прадстаўнікі раротніцкага ўраду Англіі Мак-Дональд і Сновдэн.

**Саветы і Кітай** быццам даходзяць да паразуменьня, аднак збройныя напады покульшто ня ціхнуць.

**Разьня ў Палестыне.** У Палестыне паміж Жыдамі і Арабамі паўстала сварка, каторая дайшла да разьні. Сварка паўстала быццам за тое, што ў часе набажэнства пры „Сьцяне Плачу“ (супольнае мейсца малітвы жыдоў і магамэтаў), магамэты папалілі жыдоўскія малітвенікі і аўтары. Зазначыць трэба, што над Арабамі і Жыдамі трымаюць уладу Англійцы. Разьня ўжо ўціхае.

**Выйшлі з друку:** „Шум баравы“ — зборнік вершаў Васілька, цана 1 зл. 50 гр., „Веснапесьні“ зборнік вершаў А. Ільяшэвіча — цана 1 зл., „Разьвіцьцё сацыялізму ад утопіі да навукі“ — Фр. Энгельс, палітычная брашура; „Chryśc. Dumka“ № 13; „Сям'я і Школа“ № 2 і „Саха“ № 7—8.